**УВАГА! Падпіска на "ГС" на першае паўгоддзе 1999 года працягнута да 19 снежня.**




# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Выходзіць з 1997 года.*

№ 51 (80). Слонім. 17 — 23 снежня 1998 г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік Кошт свабодны


# СЛОНІМСКІЯ ХЛОПЦЫ ІДУЦЬ У ВОЙСКА



*Працяг тэмы на стр.2*

**НАВІНЫ**

## Нормы сталі нормай жыцця

**Сёння ў Слоніме дзейнічае строгая норма продажу прадуктаў харчавання і тавараў першай неабходнасці.**

У спіс занесена 27 відаў тавараў павышанага попыту. У яго трапілі нават соль, запалкі, хлеб, булачныя вырабы, не кажучы ўжо пра масла, цукар і каўбасы. Напрыклад, солі пакупнік можа набыць толькі адзін кілаграм, запалак – 10 каробкоў, мыла – два кавалкі. А вось віна і гарэлкі адпускаюць па 5 бутэлек у адны рукі.

Выключэнне зроблена для пакупнікоў з мнагадзетных сямей, для якіх нормы продажу прадуктаў павялічаны ўдвая.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

# У СЛОНІМЕ СВАБОДА СЛОВА "НЕЦЭЛЕСООБРАЗНА"

№ 69 ад 11.12.98

СЛОНІМСКІ ГАРАДСКІ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ
231800, г. Слонім, вул. Чырвонаармейская, 40 Тэл. 2-14-34

СЛОНИМСКИЙ ГОРОДСКОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ
231800, г. Слоним, ул. Красноармейская, 40 Тел. 2-14-34

Ад 08.12.98 № 2-9/571

На № 33, 35 ад 04.11.98

г. Слоним
ул. Я. Купалы, 5
Главному редактору
«Газеты Слонімскай"
Валадашчуку В.В.

Слонимский горисполком сообщает, что на Ваши обращения по поводу установки в городе рекламного стенда газеты и реализации ее в магазинах города были даны устные разъяснения в установленные сроки. Выполняем Вашу просьбу о даче письменного ответа.

Исполком считает нецелесообразным установку рекламного стенда газеты, так как в городе ни одна газета не имеет своих рекламных стендов и на имевшие место ранее обращения подобного рода были даны аналогичные ответы. При необходимости вы можете разместить рекламный стенд в редакции своей газеты.

Что касается реализации Вашего издания в торговых предприятиях города, то исполком считает достаточным, что в них реализуется газета «Слонімскі веснік", одним из учредителей которой является горисполком.

Обращаем внимание на то, что Ваша газета использует изображение герба города, не получив на то разрешение исполкома.

Председатель исполкома О.Н.Лактюшин

№ 68 ад 10.12.98

СЛОНІМСКІ ГАРАДСКІ САВЕТ ДЭПУТАТАЎ
231800, г. Слонім, вул. Красноармейская, 40 Тэл. 2-10-65

СЛОНИМСКИЙ ГОРОДСКОЙ СОВЕТ ДЕПУТАТОВ
231800, г. Слоним, ул. Красноармейская, 40 Тел. 2-10-65

Ад 08.12.98 г. № 01-9/28

На № ... ад ...

ГАЛОЎНАМУ РЭДАКТАРУ
"ГАЗЕТЫ СЛОНІМСКАЯ"
В.У.ВАЛАДАШЧУКУ

На Ваш запрос № 37 ад 07.12.98 г. аб акрэдытацыі карэспандэнтаў "Газеты Слонімскай" на 12-ую сесію гарадскога Савета 22-га склікання адказваю.

Рашэннем сесіі гарадскога Савета дэпутатаў № 10 ад 22.05.98г "Газеце Слонімскай" адказана ў акрэдытацыі карэспандэнтаў газеты на ўдзел у мерапрыемствах, праводзімых гарадскім Саветам дэпутатаў у сувязі з тым, што у гарадскога Савета дэпутатаў ёсць свой пячатны орган – газета "Слонімскі веснік".

Гэта рашэнне прынята на увесь тэрмін работы дэпутатаў 22-склікання.

Старшыня гарадскога Савета дэпутатаў М. Лішык.

Цяпер паўсюдна: у крамах, у гарадскіх аўтобусах, дзяржустановах размешчаны плакаты тэксту Дэкларацыі правоў чалавека, якой у снежні споўнілася 50 гадоў з дня яе прыняцця. У 19 артыкуле Дэкларацыі напісана пра свабоду слова, дзе, прынамсі, гаворыцца, што кожны чалавек мае права на свабоду перакананняў і на свабоду іх выказвання...

Толькі вось незразумела для каго Дэкларацыю правоў чалавека змясціў у сваіх апартаментах гарвыканкам, калі чыноўнікі гэтага ведамства самі бесцэрымонна яе парушаюць.

Прыклад таму – два дакументы, якія рэдакцыя "ГС" атрымала ў адказ на свае запыты. Сэнс іх у тым, што мы ў чарговы раз звярнуліся ў гарвыканкам і гарсавет, каб атрымаць дазвол на ўстаноўку ў горадзе рэкламнага стэнда газеты, распаўсюджвання нашага выдання праз крамы, а таксама хацелі акрэдытаваць сваіх карэспандэнтаў на сесіі. Нам адмовілі па прычыне таго, што гэта "нецэлесообразно".

Выходзіць, улады па-свойму разумеюць свабоду слова.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

*Матэрыял на тэму аб правах чалавека чытайце на 3 стр.*

## Святочны расклад руху аўтобусаў

**Напрыканцы снежня, у святочныя дні, будзе зменены расклад руху прыгарадных і міжгародніх аўтобусаў.**

Як паведаміла "ГС" намеснік дырэктара аўтапарка №3 Валянціна Жук, з 19 снежня ў аўторак, чацвер, пятніцу і суботу будзе курсіраваць прыгарадны аўтобус Слонім-Дзераўная. Адпраўленне са Слоніма ў 13.00, а з Дзераўной у 13.45. 24 і 31 снежня прыгарадныя аўтобусы будуць курсіраваць па сумешчанаму раскладу чацвярга і пятніцы, а 25 снежня – па раскладу нядзелі.

24 і 31 снежня дадаткова ўводзяцца маршруты Ружаны-Мінск (адпраўленне са Слоніма ў 8.26) і Слонім-Ліда (адпраўленне ў 12.00). 27 снежня і 3 студзеня ў 15.30 пойдзе аўтобус у Мінск. А ў панядзелак, 28 снежня, аўтобус Слонім – Мінск адправіцца ў сталіцу ў 6.00.

З 16 снежня гарадскі маршрутны аўтобус №11 будзе курсіраваць да прыпынку «Сельгастэхніка».

**Сяргей ЁРШ**

## "Веснік" з новым рэдактарам

**Ім стала журналістка Марыя Данюк, якая працавала ў газеце адказным сакратаром.**

Былы рэдактар Сяргей Прасняк, які пайшоў на пенсію, па-ранейшаму застаўся там працаваць.

Калектыў "Газеты Слонімскай" шчыра віншуе спадарыню Марыю Данюк з рэдактарскай пасадай і спадзяецца, што на сесіі 17 снежня дэпутаты гарсавета зацвердзяць яе прызначэнне.

## Пікет каля танка

**У нядзелю,13 снежня, у Слоніме на Першамайскай вуліцы адбыўся пікет, які з дазволу гарвыканкама ладзіла Слонімская суполка БНФ "Адраджэнне".**

У пікеце прынялі ўдзел 15 чалавек. На плакатах, якія яны трымалі, выказваўся пратэст супраць штодзённага росту цэн, мізэрнай зарплаты і пенсіі, збяднення беларускага народа.

**Міхась АКУЛКА**




**ЗДАРЭННІ**

## Не размінуліся "БМВ" з "Опелем"

**У мінулы чацвер на Брэсцкай вуліцы здарылася аварыя.**



19-гадовы вадзіцель аўтамашыны "БМВ", які на днях павінен быў прызвацца ў войска, парушыў правілы дарожнага руху і сутыкнуўся з сустрэчным "Опелем".

Абедзве іншамаркі атрымалі моцныя пашкоджанні, а два пасажыры з "Опеля" з цяжкімі калецтвамі дастаўлены ў бальніцу.

## Пагоня са стрэламі

**Табельную зброю прыйшлося прымяніць інспектарам ДАІ, каб спыніць 28-гадовага слонімца С., які на мінулым тыдні ў нецвярозым стане імчаў на "Опеле" па вуліцы Міцкевіча.**

Парушальніка правіл дарожнага руху затрымалі толькі тады, калі пасля некалькіх папераджальных выстралаў у паветра, былі прастрэлены колы іншамаркі.

## Бацька з сынам загінулі ў агні

**9 снежня ў 19.25 у вёсцы Залессе загарэўся дом, які належыць Сяргею Снітко.**

Пажарныя патушылі агонь, аднак выратаваць жыццё 28-гадовага гаспадара дома і яго трохгадовага сына Андрэйкі не ўдалося.

## Кішэнныя злодзеі не пераваяліся

**У мінулую нядзелю на гарадскім рынку адразу ў чатырох жанчын зніклі кашалькі з грашыма.**

Першая з іх выявіла прапажу, калі стала разлічвацца за пакупку, але ўбачыла, што ў поліэтыленавай торбе, дзе знаходзіўся кашалёк, – вялікая дзірка. А неўзабаве яшчэ тры жанчыны звярнуліся ў міліцыю з заявамі аб знікненні грошай.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## "Суровае" пакаранне

На двары зіма, а ў калгасе "Перамога" Зэльвенскага раёна непадалёку ад вёскі Янаўшчына на палях пад снегам знаходзяцца некалькі гектараў кармавых буракоў.

Прычына гэтай безгаспадарчасці простая. Былому 30-гадоваму старшыні гэтага калгаса І. Барташэвічу, які быў вызвалены ад пасады ў кастрычніку, было не да буракоў. Бо ўсе свае сілы і здольнасці ён галоўным чынам скарыстаў на тое, каб як мага хутчэй пабудаваць сабе катэдж у вёсцы Караліно, дзе раней працаваў намеснікам старшыні тамашняга калгаса.

Высветлілася, што сваю хатку Барташэвіч будаваў на калгасныя грошы і з калгасных будматэрыялаў. Гэта ўстанавіў суд Зэльвенскага раёна і пакараў калгаснага кіраўніка на паўтары гады выпраўленчых работ па месцы працы з утрыманнем у даход дзяржавы 10 % заробку. А каб грошы ён змог аддаваць дзяржаве, Барташэвіча зноў паставілі кіраваць калгасам "Караліно" у якасці намесніка старшыні.

Але самае цікавае тое, што падчас судовага працэсу Зэльвенскі райвыканкам па-свойму ацаніў крамолу Барташэвіча. Улады скасавалі з ім кантракт (як са старшынёй калгаса "Перамога") за тое, што ён не справіўся з працай кіраўніка, не здолеў кансалідаваць спецыялістаў і мабілізаваць сялян гаспадаркі на барацьбу за ўраджай.

**Святлана КІСЛАЯ, г.п. Зэльва**

**ВЕСТКІ З МАСТОЎШЧЫНЫ**

## Капітальны рамонт савецкай улады

**Сур'ёзны эканамічны крызіс, што распачаўся ў Беларусі, ніякім чынам не спыніў кіраўніцтва Мастоў абнавіць унутраны інтэр'ер дома Саветаў.**

Падчас падрыхтоўкі да ўсерэспубліканскага свята "Дажынкі-97", калі ўздоўж цэнтральнай Савецкай вуліцы былі пафарбаваны гнілыя платы ды сцены старых будынкаў, у гэтай кіруючай установе да людскога ладу былі даведзены толькі прыбіральні.

Цяпер жа рамонт будынка выканкама ідзе поўным ходам. А тым часам у кватэрах мастаўчан у буднія дні не стала гарачай вады. Як патлумачыў начальнік упраўлення райвыканкама А.Цярэшка, гэта звязана са змяншэннем паставак расійскага газу. І таму гарачую ваду цяпер падаюць у пятніцу, суботу, нядзелю. І то не заўжды.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## У бальніцы свой ідэолаг

**На пасаду намесніка галоўнага ўрача па інфармацыйна-выхаваўчай працы мастоўскай бальніцы прызначаны Алег Лойка, які працуе паталагаанатамам на палову стаўкі.**

Трэба спадзявацца, што праца ў Алега Іосіфавіча будзе ладзіцца, бо калі хвораму не дапамогуць яго шчырыя тлумачэнні наконт адсутнасці ў аптэках лекаў і чалавек памрэ, то патрэбнае заключэнне аб прычыне смерці яму будзе гарантавана.

**Антон МАКЕЙ**

# СЛОНІМСКІЯ ХЛОПЦЫ ІДУЦЬ У ВОЙСКА

**11 снежня, у пятніцу, Слонім адправіў у войска чарговую каманду маладога папаўнення.**



*Провады ў армію*

Каля будынка слонімскага ваенкамата іх праводзілі бацькі, сваякі, сябры. Нягледзячы на халоднае надвор'е і снегапад, тут сабраліся некалькі дзесяткаў чалавек. Хтосьці плакаў, а хтосьці танчыў і спяваў (на здымку). Побач з ваенкаматам на ўсякі выпадак дзяжурыла міліцэйская машына.

11 снежня ў войска было адпраўлена 14 слонімцаў. 14 снежня 11 хлопцаў накіравалі на службу ў Слонімскую брыгаду. Апошнія прызыўнікі пойдуць у войска ў студзені наступнага года. Усяго будзе прызвана каля 100 юнакоў.

**Сяргей ЁРШ, Мікалай СУПРУН (фота)**

**НАВІНЫ**

## Экзаменаваць будзе вясна

**У калгасе "Прагрэс" прайшоў раённы семінар, на якім разглядаўся стан рамонту сельскагаспадарчай тэхнікі да вясны.**

Камісія адзначыла, што гэта работа найлепш пастаўлена ў калгасе "1 Мая". Гаспадарцы прысуджана першае месца. Другое месца заняў калгас "Прагрэс", трэцяе — калгас "Кастрычнік".

## "Журавінка" заваявала гран-пры

**У Ялце адбылася міжнародная выстава-ярмарка "Крым. Пладовае віно-98", у якой прыняў удзел слонімскі вінзавод.**

Вышэйшай узнагароды выставы ўдастоена пладовая настойка "Журавінка". Залаты медаль атрымала пладовае віно "Жалейка", сярэбраныя — віны "Зялёны яблык" і "Слонімскае моцнае".

**Валянцін ЧУРЫЛА**

**ВЕСТКІ З ДЗЯТЛАЎШЧЫНЫ**

## У Дзятлава ідзе Каляда

**Вучні Падвялікаўскай базавай школы рыхтуюць цікавае мерапрыемства пад назвай "Ехала Каляда".**

Яны пакажуць абрад, які раней у свята спраўлялі ў беларускіх вёсках. Хлопчыкі і дзяўчынкі праспяваюць каляднцыя песні, падрыхтуюць і стравы для куцці, каб пачаставаць імі ўдзельнікаў свята.

## Здарэнні на дарогах

**На дарозе паміж вёскамі Гірычы і Кашкалы грузавая аўтамашына наехала на пешахода, які ляжаў на праезджай частцы.**

Чалавек быў прысыпаны снегам, і вадзіцель, не заўважыўшы, пераехаў яго. Чалавек памёр.

***

**Грамадзянку К. бяда напаткала на дарозе каля вёскі Страла.**

Яе збіла грузавая аўтамашына. З траўмамі жанчына дастаўлена ў цэнтральную раённую бальніцу.

***

**Зусім недастойна павёў сябе на аўтатрасе Дзятлава—Ліда жыхар пасёлка Бярозаўка М.**

На аўтамашыне БМВ ён спрабаваў абагнаць "Жыгулі" і нечакана сутыкнуўся з імі. У выніку, "Жыгулі" апынуліся ў канаве, атрымаў траўму пасажыр. Вадзіцель БМВ замест таго, каб дапамагчы, уцёк. Але схаваўся ненадоўга. Супрацоўнікі міліцыі хутка затрымалі парушальніка.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

**ВЕСТКІ З ЗЭЛЬВЕНШЧЫНЫ**

## За целебной водой в Словатичи

**Между деревнями Словатичи и Зеньковцы с северной возвышенности берет начало родник, который в народе называют "храмом" природы.**

Жители местных деревень сделали хороший подъезд, установили кольца. За целебной водой сюда приезжают не только жители района, но и республики. Крестьяне с любовью называют родник студенцом. Даже в крепкий мороз он не замерзает. А в августовские дни, когда православные христиане отмечают праздник Воздвижение честного и животворящего Креста Господня (называемый в народе день семи братьев Маковеевых), у родника проходит богослужение.

## Спявала "Весялуха"

**У раённым доме культуры даў канцэрт мясцовы ансамбль народнай песні і музыкі "Весялуха".**

У рэпертуары калектыву гучалі беларускія народныя песні і песні сучасных кампазітараў. "Весялуха" мае ганаровае званне "Народны самадзейны калектыў".

**Святлана КІСЛАЯ**

**УСТАЦЬ! СУД ІДЗЕ!**

# СЯМ'Я З ІМ ЖЫЦЬ НЕ ЗАХАЦЕЛА

Нядаўна гарадскі суд разглядаў іскавую заяву сланімчанкі Ірыны К., якая звярнулася з просьбай аб прымусовым высяленні з кватэры яе былога мужа. Не простая гэта справа — высяліць чалавека зімой на вуліцу. І не вельмі часта здараюцца такія выпадкі ў нашым горадзе. Тым не менш, разгледзеўшы матэрыялы справы, суд вынес рашэнне аб высяленні 38-гадовага Іосіфа К. з кватэры.

Жанчына паведаміла суду, што яе былы муж, з якім яна сумесна жыве ў аднапакаёвай кватэры, злоўжывае спіртным і сваімі паводзінамі робіць немагчымым разам жыць і гадаваць дваіх дзяцей. І Ірына, як на споведзі, расказала гісторыю свайго жыцця. У 1987 годзе маладая дзяўчына атрымала дзяржаўную аднапакаёвую кватэру. Усяго 17 квадратных метраў жылой плошчы, але колькі радасці ў яе было. Нарэшце збылася запаветная мара мець уласны куток. Неўзабаве пазнаёмілася з Іосіфам, які прызнаўся ёй у светлых пачуццях. Праз год згулялі вяселле, пачалі абжываць новую кватэру.

Праз некаторы час у маладой сям'і з'явіліся на свет двое дзетак: сынок Жэнік і дачушка Аня. Спачатку ўсё было як у людзей. Абодва працавалі, атрымлівалі неблагую на той час зарплату. Кватэра паціху запаўнялася мэбляй, бытавой тэхнікай. Вядома ж, цеснавата чатыром у аднапакаёўцы, але Ірына мела надзею з цягам часу атрымаць больш прасторнае жытло. Ды не спраўдзіліся яе спадзяванні. Больш таго, яна пачала заўважаць, што муж усё часцей і часцей стаў прыходзіць дамоў п'яны. Прасіла, угаворвала, як магла, кінуць піць. Аднак не дайшлі словы жонкі да Іосіфа. З кожным днём ён станавіўся ўсё больш агрэсіўным. Здавалася, забыўся бацька, што ў яго ёсць двое дзетак, якіх трэба расціць і выхоўваць. У кватэру пачалі наведвацца шумлівыя кампаніі, якія пакідалі пасля сябе апоўначы гару бутэлек. Варта было Ірыне зрабіць заўвагу, як муж пачынаў скандал на ўсю ноч. Але яшчэ горш было маленькім Жэніку і Ані. Недаспаўшых і раздражнёных раніцай вяла іх маці ў садок. Ірына, цярплівая па натуры, усё ж была вымушана звярнуцца ў міліцыю. Спадзявалася, што можа гэта дапаможа мужу апамятацца. У міліцыі Іосіфа папярэдзілі, аднак і пасля гэтага ён не кінуў піць і здзекваўся з жонкі і дзяцей. Больш таго, не маючы пастаяннага месца працы, пачаў выносіць з дому хатнія рэчы ў абмен на гарэлку.

Пасля працоўнай змены Ірына бегла забіраць дзетак з садка, бо бацька не лічыў сваім абавязкам гэта рабіць. Але калі ў жанчыны была другая змена, для Жэніка і Ані наступалі цяжкія часы. Прыходзячы з садка дамоў самастойна, дзеці часта стаялі каля дзвярэй кватэры, чакаючы, пакуль п'яны бацька пачуе іх і ўпусціць у пакой. Цярпенне жанчыны лопнула, калі аднойчы прыйшла з дзецьмі дамоў і пачула ў пакоі шум п'янай кампаніі. Адчыніўшы дзверы, яна жахнулася. Па пакоі бегалі ў пошуках адзення незнаёмыя мужчына і жанчына.

Ірына падала заяву ў суд аб скасаванні шлюбу, хаця яна яшчэ спадзявалася, што Іосіф адумаецца і зменіць свой лад жыцця. Аднак пасля разводу ў кватэры яшчэ часцей пачалі з'яўляцца вясёлыя кампаніі, сярод якіх Ірына бачыла жанчын лёгкіх паводзін.

Жыццё стала зусім невыносным. А ў студзені 1998 года п'яны Іосіф выгнаў Ірыну з дзецьмі з дому на вуліцу. Гэты ўчынак не прайшоў дэбашыру дарма. Назаўтра ён быў дастаўлены ў міліцыю і адсядзеў пятнаццаць сутак адміністрацыйнага арышту. Адбыўшы тэрмін пакарання, ён зноў узяўся за старое. Стаў напівацца так, што пачаў блытаць жылы пакой з туалетам. А запазычанасць па аліментах склала каля 9 млн.руб.

Але самае непрыемнае чакала сям'ю наперадзе. Аднойчы Ірына атрымала звестку, што яе дзеці прыходзяць на заняткі галоднымі і пытаюць у дзяцей і настаўнікаў што-небудзь паесці. Высветлілася, што настаўнікі прыносілі ежу з дому, каб пакарміць галодных дзетак Ірыны.

Жанчына спачатку не магла зразумець, як магло такое здарыцца, бо заўсёды перад адыходам на працу гатавала снеданне і пакідала яго на кухні для дзяцей. Прыходзячы дамоў, яна радавалася, што сынок і дачушка ўсё старанна з'ядалі, бо посуд быў пустым. Пазней высветлілася, што варта было Ірыне выйсці з дзвярэй, як імгненна бацька з'ядаў усё да апошняга кавалка, нічога не пакінуўшы дзецям.

Іосіф К. слухаў усё гэта сумна апусціўшы галаву. Яму нічога не заставалася, як прызнацца ў праўдзівасці расказу сваёй былой жонкі...

**Валянцін ЧУРЫЛА**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Юрыдычны адрас: г.Слонім, Брэсцкая, 109/12
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас для пісем:
231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэл. 2-14-39.
(017)210-87-17
E-MAIL:gs@irex.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 16 снежня 1998г.
Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісны індэкс 64042.
Наклад 7.000 экз.
Заказ №3441
© «Газета Слонімская». Спасылка на "ГС" абавязковая
Ⓡ Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы

# ОЛЕГ ДОМОЙ НЕ ВЕРНУЛСЯ. ПРОШЕЛ ГОД

## Будет ли открыт занавес молчания, которым слонимское начальство прикрывает смерть человека?..

Недалеко от своего дома (около 19.00, 5 декабря 1997 года) 29-летний водитель Олег Дейко пожал своему другу руку, сказав, что завтра поедет в деревню к матери. Но в родную деревню он вернулся уже мертвым. В нескольких десятков метров от дома милиционеры забрали Олега в медвытрезвитель по той причине, что он был выпивши. Врач "скорой помощи" прибыл через пять минут после поступления вызова, в 00.40 06.12.97г. Он официально зафиксировал бурые пятна на полу, которые от ног покойного вели вглубь коридора, а также то, что с момента смерти прошло 30-60 минут. Мать и жена еще ничего не знали, а уже был поднят с постели судмедэксперт, и в три часа ночи было произведено вскрытие. В 9.00 утра 06.12.97, прибывшей из деревни матери сообщили результаты экспертизы — алкогольное отравление. С морга мать забрала труп с ссадиной на пояснице, кровоподтеками на правом бедре и... выстиранные брюки и кофту сына (нижнее белье было сухое).

В Слониме эта трагедия приобрела широкий общественный резонанс, который усиливался отсутствием официальной информации. Город был взбудоражен, а власти со странным упорством продолжали умалчивать это происшествие, от чего обстановка еще больше накалялась.

Поэтому 18.12.97 года на сессии городского Совета я обратился к начальнику Слонимского ГРОВД Мечиславу Батуре с депутатским запросом, в котором потребовал дать официальное разъяснение об обстоятельствах гибели Олега Дейки в медвытрезвителе. Полковник милиции промолчал, а председатель горисполкома Олег Лактюшин голословно обвинил меня в спекуляции на горе матери. В январе 1998 года, на очередной сессии городского Совета, эти же должностные лица выступили против создания депутатской комиссии по расследованию гибели Дейки. Кстати, начальник ГРОВД М.Батура так и не дал разъяснения об обстоятельствах смерти и по сегодняшний день. А ведь это — не только нарушение закона и прав депутата. Это, прежде всего, пренебрежение к людям, которые меня выбрали депутатом. Однако мои обращения о нарушении закона со стороны начальника ГРОВД при выполнении депутатского запроса были проигнорированы и межрайпрокурором Анатолием Явлашом.

Впрочем, взяться за перо и вспомнить прошлогоднюю трагедию я решился не только, чтобы еще раз напомнить лицам, находящимся у власти, что нужно уважать Закон и права человека. Гораздо важнее, чтобы на месте Олега Дейки не оказался кто-нибудь еще, а также нужно сделать все возможное, чтобы вернуть доверие людей к слонимской милиции. А для этого нужно снять завесу молчания, которой слонимское начальство прикрыло смерть О.Дейки.

А это умолчание тревожит жителей города и поныне.

Следует отметить, что негодование слонимчан было столь сильным, что в конце февраля 1998 года слонимский межрайпрокурор А.Явлаш вынужден был заявить в районной газете, что "срок предварительного расследования по факту смерти О.Дейки продлен до трех месяцев. О результатах расследования и об обстоятельствах его смерти население будет проинформировано через "Слонімскі веснік". Люди как будто поверили представителю власти, однако такую информацию так и не получили и по сей день, хотя расследование закончилось еще 24.04.98г. Кроме того, отметим, что вскоре после этих событий, по неизвестным причинам, начальник медвытрезвителя и двое его подчиненных (родственники известных в Слониме начальников) написали рапорта и уволились из органов внутренних дел.

**P.S.** В 1996 году Слонимский горсовет утвердил решение горисполкома "О создании внебюджетного фонда отдела внутренних дел горрайисполкомов". В этот фонд, согласно решению, отчисляется 20% от суммы штрафов за административные правонарушения, расследования которых проводились работниками ОВД. Получается, что стало выгодно милиции задерживать платежеспособных граждан. А у них, в отличие от пьяниц, присутствует чувство собственного достоинства. Результат предугадать не сложно...

Отсюда следует, что надо или отменить решение местной власти, или плюнуть на чувство собственного достоинства, чтобы жить.

**Михась ВОРОНЕЦ,**
**депутат Слонимского городского Совета**

## *Светлана АЛЕКСИЕВИЧ:*

## «Пора уйти с баррикад и начать разговор о нормальной человеческой жизни»

**Светлана Алексиевич, известная белорусская писательница. Она автор книг "У войны не женское лицо", "Цинковые мальчики" и др.**

Права человека порой толкуются очень грубо и примитивно. Я говорю о том, что наше дефективное общество, народ и наши дефективные интеллектуалы, несущие в себе комплекс поражения, видимо, не способны что-то сделать. Говорить сегодня о каких-то переменах, о какой-то революции было бы романтично и наивно. Это сегодня нереально.

Сегодня ясно, что формы противостояния должны быть иными. Надо говорить на уровне идей граждан-ского общества и гражданской формы самосознания. Вот о создании чего мы должны говорить. И тогда права человека понимаются гораздо шире.

Но у нас почему-то сложно об этом говорить, видимо, потому, что мы вышли из культуры борьбы, из культуры баррикад. И эти баррикады — по ту и другую стороны. На них находятся демократы и нынешние власти, причем у обоих — большевистское, баррикадное мышление. И когда вы заговариваете о правах человека, о том, что человек имеет право быть самим собой, имеет право прожить свою жизнь, имеет право думать не так, как думают все, — это воспринимается как вызов, потому что к этому никто не привык. А ведь право быть отдельным человеком как раз и есть главное право человека...

Давайте уйдем с баррикад и будем так думать, давайте спорить о том, каков смысл и как выходить из этого противостояния. Но когда вы произносите эти слова, вы как бы становитесь клятвопреступником для тех, кто засел на баррикадах. Потому что есть преданность коммунистической, национальной идее, верность президенту и тем, кто сегодня у власти. А мы хотим говорить просто о человеке и о его живом человеческом времени.

Давайте в этот переходный период, которого никто в истории не знает, ибо никто не ходил назад от социализма к капитализму, сохраним человеческую жизнь и не будем убивать друг друга. Давайте научимся терпимости и признаем, что каждый человек имеет право быть самим собой. Может быть мне не нравятся взгляды Сергея Дубовца или Зенона Позняка, или Александра Лукашенко, или коммуниста Василия Новикова, или Леонида Школьникова... Но это вовсе не значит, что мы должны уничтожать друг друга.

Наверняка мое право человека состоит сегодня в том, чтобы поразмышлять о причинах нашего поражения. Я думаю о том, что мы не предложили обществу нормальные гражданские идеи. Давайте больше доверять самой жизни, быть может, она сама вывезет нас из этого тупика. Возможно, процессы диалога, притирания друг к другу и поиска новых идей ускорят созревание нового поколения, которое сможет выкатить нас из этой ямы.

Мы не должны уплотнять и удлинять ненависть. Одни говорят, что Лукашенко — фашист, другие, что демократы — фашисты. А народ вообще запутался. Ведь война закончилась более 50 лет назад. Как говорят китайцы, не дай Бог жить в быстро меняющемся мире. Даже нам, интеллектуалам, трудно. А каково людям на улице?

С баррикады видна только мишень, на баррикаде портится зрение. Давайте предложим людям задуматься о ценности жизни, о смысле достоинства, о том, что может быть, если человек будет беречь свой дом, детей и думать о радостях жизни. Для того чтобы дать людям какие-то точки опоры, какие-то оазисы, которые, может быть, помогут гораздо больше, чем откровенные митинги. По-моему, человеку сегодня надо побыть в тишине и немножко подумать. Не торопиться. Давайте соберемся, посмотрим фильмы, поговорим, послушаем друг друга...

**БелаПАН**




# МЕЖДУНАРОДНЫЙ ЦЕНТР ПРОТИВ ЦЕНЗУРЫ

**Article 19** взяла название и определение цели деятельности из Статьи 19 Всеобщей декларации прав человека, которая гласит:

***Каждый человек имеет право на свободу убеждений и на свободное их выражение, это право включает свободу беспрепятственно придерживаться своих убеждений и свободу искать, получать и распространять информацию и идеи любыми средствами и независимо от государственных границ.***

**Article 19** работает беспристрастно и систематически, чтобы противостоять цензуре во всем мире. Эта организация работает от имени жертв цензуры — людей, которые пострадали физически, были убиты, несправедливо осуждены, вынуждено ограниченны в передвижении или были уволены. Центр работает от имени печатных изданий, теле- и радиовещательных компаний, чья деятельность подвергается цензуре, запретам и угрозам.

СТАТЬЕЙ 19 был подготовлен доклад "Беларусь: Петля затягивается", где подробно описывается развитие событий относительно свободы средств массовой информации в Беларуси. После введения властями ряда ограничительных мер вначале 1998 года петля затянулась еще туже.

Например, в марте текущего года в различные государственные учреждения было разослано циркулярное письмо с пометкой "для служебного пользования" под заголовком "Об усилении контрпропаганды выступлений оппозиционной прессы". В нем говорится, что правительство считает необходимым принять следующие меры:

— запретить министерствам, госкомитетам и другим органам государственного управления передачу в негосударственные СМИ любых официальных документов (указов, постановлений, распоряжений и т.д.),

— довести до сведения должностных лиц о недопустимости с их стороны комментариев официальных документов для оппозиционных СМИ,

— запретить государственным учреждениям и предприятиям размещение своей рекламы на страницах оппозиционных газет, что является основным источником их финансирования.

Ряду негосударственных средств массовой информации было отказано в доступе к информации на основании этого циркулярного письма.

Кстати, вот что в этом докладе говорится относительно «Газеты Слонімскай».

"В конце марта корреспондентам региональной "Газеты Слонімскай" отказали в аккредитации в городском и районном исполкомах города Слонима Гродненской области. В письме районного исполкома газете говорится: "Ваша газета независимая, и давать аккредитацию корреспондентам, считаем, нецелесообразно". В аналогичном письме городского исполкома указывалось, что только корреспондентам государственной районной газете разрешено присутствовать на заседаниях горисполкома."

Министерство иностранных дел Республики Беларусь считает необходимым прокомментировать положения доклада, содержащие, во многом, неадекватную интерпретацию шагов Правительства Республики Беларусь в области регулирования деятельности средств массовой информации и обеспечения конституционного права граждан на получение, хранение и распространение информации.

**Министерство иностранных дел Республики Беларусь к докладу организации "СТАТЬЯ 19" "Беларусь: Петля затягивается" подготовило следующий комментарий.**

Относительно якобы имевшего места запрета на предоставление официальной информации негосударственным средствам массовой информации хотели бы разъяснить следующее. В соответствии с Конституцией и Законодательством Республики Беларусь в целях реализации гражданами Республики Беларусь конституционного права на своевременное оперативное получение через средства массовой информации достоверных сведений о деятельности государственных органов, общественных объединений, о политической, экономической и международной жизни, состоянии скружающей среды, редакции всех средств массовой информации имеют право запрашивать такую информацию. В соответствии с Законом "О печати и других средствах массовой информации" руководители указанных органов, организаций и общественных объединений, их заместители, работники пресс-служб или другие уполномоченные на то лица в пределах их компетенции в установленный законодательством срок обязаны предоставлять запрашиваемую информацию. Закон определяет, что отказ в предоставлении запрашиваемой информации возможен, только если она имеет сведения, составляющие государственную, коммерческую либо иную специально охраняемую тайну. Иные сведения для отказа в предоставлении запрашиваемой информации для средств массовой информации законодательством Республики Беларусь не предусмотрены.

Распространенная в марте 1998 года под грифом "для служебного пользования" записка "Об усилении контрпропаганды выступлений оппозиционной прессы", не является нормативным актом, обязательным для исполнения. Таким образом, необходимо подчеркнуть, что эта записка лишена какой бы то ни было юридической силы.

Приведенные в докладе случаи непредставления средствам массовой информации сведений государственными органами подпадают под действие статьи 172.1 Кодекса об административных правонарушениях Республики Беларусь "Нарушение законодательства о печати и других средствах массовой информации". Эта статья предусматривает, в том числе, ответственность должностных лиц государственных органов за непредставление, несвоевременное представление информации, ущемление свободы массовой информации.

# "У АБ'ЕКТЫВЕ — ДЗЕЦІ". КОНКУРС ЗАВЯРШАЕЦЦА



А цяпер паслухайце наш апошні хіт
*Фота даслала Ларыса ГУШЧЫНА*



Шумахер, кажаце?.. - Не, не ведаю
*Фота даслала АЛЕНА ПЯТЛІЦКАЯ*



Не абмяняю на цукеркі
*Фота даслаў Юрый КРОТ*



Яшчэ адну лыжачку...
*Фота даслала Таццяна ЛЕГАСТАЯВА*



Пачынаючы з ліпеня, на старонках "ГС" друкаваліся здымкі дзяцей, якія нашы чытачы дасылалі на конкурс "У аб'ектыве — дзеці". За пяць месяцаў рэдакцыя атрымала шмат фотаздымкаў. Лепшыя з іх былі апублікаваны. Праўда, некаторыя фотакарткі аказаліся не вельмі якаснымі, не былі таксама ўказаны імёны аўтараў здымкаў, неразборліва напісаны іх адрасы і прозвішчы. Таму іх рэдакцыя не публікавала. Тым не менш, конкурс адбыўся. І як мы абяцалі, у канцы снежня будуць падводзіцца яго вынікі, а пераможцы атрымаюць прызы ад слонімскіх фірм **"Кодак"**, **"Тэлкон"**, **"CfS"**.

Падвядзенне вынікаў конкурсу "У аб'ектыве — дзеці" адбудзецца ў памяшканні Слонімскага драмтэатра ***(вул. Чырвонаармейская, 25) 26 снежня ў 13 гадзін.*** Запрашаем усіх аўтараў, чые здымкі былі надрукаваны ў "Газеце Слонімскай", на гэтую ўрачыстасць. А таксама вашых дзяцей і ўнукаў, для якіх за кошт рэдакцыі будзе паказаны спектакль "Крышталеная сняжынка". А каму ў той дзень не пашанцуе, адчайвацца не трэба. Бо ў новым годзе наша газета па-ранейшаму будзе праводзіць новыя конкурсы з прызамі і грашовымі прэміямі. І ўсё яшчэ наперадзе.

***Да сустрэчы!***

## АНЕКДОТЫ

➡ Прыжки с парашютом.

Инструктор: «1-й пошел, 2-й пошел ..., последний пошел», а он ни в какую - говорит: «Сколько раз прыгаю, ни один раз парашют не открылся».

Ну, его инструктор и выбросил, несмотря на его сопротивления.

А тут идет значит собрание в какой-то российской глубинке, то бишь колхозе.

Выступают доярки:

«Коровы не доятся, урожая нет, денег нет, мужики пьют — нет сил»

Тут ломается крыша...

«И этот десантник - НУ ТАК НАДОЕЛ»

➡ Женщина на приеме у психолога:

- Вы знаете, доктор, я с ужасом думаю о пятидесятилетии...

- И что же с вами тогда приключилось ?

➡ Сын (радостно):

- Мамочка! Я сегодня сделал доброе дело! Два дяди спешили на поезд, я спустил с поводка нашу собаку, и они успели!

➡ Жена купила лотерейный билет.

-Если выиграю,- говорит она мужу,- куплю себе шубу.

-А если не выиграешь? - ехидничает муж.

-Тогда ты мне ее купишь!

➡ В самолете робкий юноша смотрит на красивую соседку и никак не может с ней заговорить. Наконец, отважившись, начинает:

-Извините, вы тоже летите этим самолетом?...

➡ - На прошлой неделе песчинка попала в глаз моей жене, и она должна была пойти к врачу. Этот визит стоил ей сорок долларов!

- Чепуха! На прошлой неделе на глаза моей жене попалось меховое пальто, и это стоило мне пять тысяч долларов!

➡ Жена ушла от мужа. Дома она говорит матери:

- Как только я вышла из дома, раздался выстрел... Как ты думаешь, он застрелился?

- Я думаю, он открыл бутылку шампанского.

➡ Из воды вытащили даму, которая чуть не утонула.

- Пульс есть... Значит, жива. Отлично... Так... Мадам, произнесите хотя бы слово!..

- Нет ли у вас зеркальца?

**У Слонімскім аддзеле ЗАГСа зарэгістравалі шлюб:**



Балкунец Дзмітрый і
Барон Таццяна

Захараў Сяргей і
Хліманкова Алена

**ШЧАСЦЯ ВАМ!**

**За мінулы тыдзень у Слонімскім аддзеле ЗАГСа зарэгістраваны дзеткі, якія нядаўна нарадзіліся:**

Бялькевіч Ксенія
Кавалеўскі Андрэй
Арочка Наталля
Рудая Караліна
Казлоўскі Максім
Блізнюк Алена
Бурак Андрэй
Балкунец Іна
Рыжая Дар'я

**КАГО НАМ БУСЕЛ ПРЫНЁС?**

## СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ

✝

| | |
|---|---|
| **Белапятровіч** Альфонс Іосіфавіч | 1932 г.н. |
| **Акрутновіч** Марыя Міхайлаўна | 1932 г.н. |
| **Дашкевіч** Паліна Іванаўна | 1920 г.н. |
| **Хвяcько** Канстанцін Канстанцінавіч | 1925 г.н. |
| **Шпакоўскі** Іван Уладзіміравіч | 1959 г.н. |
| **Юргялевіч** Пётр Васільевіч | 1922 г.н. |
| **Кірык** Ніна Мікалаеўна | 1934 г.н. |
| **Супрун** Мікалай Мікалаевіч | 1939 г.н. |
| **Бялькевіч** Іван Ігнатавіч | 1929 г.н. |
| **Куляшэвіч** Уладзімір Ільіч | 1930 г.н. |
| **Башко** Уладзімір Фёдаравіч | 1912 г.н. |



## КРОССВОРД

***от Владимира Вашуты***

**Необычность этого кроссворда заключается в том, что в задании приводятся лиш определения загаданных слов без указания их точного местонахождения. Следует подобрать для каждого слова место в сетке, ориентируясь по заданным буквам.**



Государство в Южной Америке. Съедобный гриб. Город-герой. Специалист по плодовым растениям. Бывшая союзная республика. Генеральное сражение. Артист цирка, эстрады. Строительное искусство. Река в Польше. Духовой музыкальный инструмент. Крупная постройка, увенчанная куполом. Воинское здание на флоте. Выдающийся русский певец. Старая русская мера длины. Столица бывшего социалистического государства. Тот, кому посылают письмо, телеграмму. Известный советский писатель. Начальник войска в Древней Руси. Груз на воздухоплавательном аппарате.

Однообразный раскатистый звук. Крупный город в США. Русская народная песня. Башенные часы с боем. Русский революционер, писатель, философ. Вид банковской операции. Окружающая среда, обстановка. Водный поток, низвергающийся с уступа. Старинная крестьянская одежда из грубого сукна в виде кафтана. Совокупность надпалубных частей судового оборудования. Приспособление в виде большого зонта для прыжка или спуска груза с самолета. Руководитель факультета в высшем учебном заведении. Наименьшее количество.

**ОТВЕТЫ НА КРОССВОРД (№50)**

**ПО ГОРИЗОНТАЛИ:** 3. "Варяг". 6. Лафет. 8. "Русалка". 9. Корица. 10. "Золото". 11. Агат. 15. Ряса. 17. Загадка. 18. Фабрика. 19. Литавра. 21. Альтаир. 22. Стаж. 24. Брод. 29. Рокада. 30. Панама. 31. Пикассо. 32. Анапа. 33. Свита.

**ПО ВЕРТИКАЛИ:** 1. Орбита. 2. Афелия. 3. Виола. 4. Град. 5. Бальзак. 6. Лазо. 7. "Татра". 12. Габарит. 13. Паскаль. 14. Актиния. 16. Сопрано. 20. Атбасар. 22. Сноха. 23. Абакан. 25. Ранжир. 26. Домна. 27. Папа. 28. Эпос.

КАПРЫЗ ПРЫРОДЫ

# Баль завірух

**Такой раптоўнай і снежнай зімы на Слонімшчыне даўно не было.**



Першы снег ужо выпаў 12 лістапада, а роўна праз месяц, у мінулую суботу, разгуляўся сапраўдны баль завірух. Пазамятала, як кажуць, усе сцежкі-дарожкі. І тыя людзі, якія планавалі ў суботу, 12 снежня, некуды паехаць, мусілі сядзець дома і праз акно наглядаць, як віхурыць мяцеліца.

У гэты дзень да сваіх школ не даехалі многія дзеткі горада, таму ў класах сядзелі па 5-10 чалавек. А ў Дзеравянчыцкай і Хадзявіцкай школах наогул не было заняткаў. Бо настаўнікі, якія жывуць у Слоніме, а іх большасць, не змаглі даехаць да вёсак.

У суботу не выехалі ў рэйсы прыгарадныя аўтобусы Не працаваў рынак, а паштальёны суботнюю пошту дастаўлялі слонімцам толькі ў нядзелю..

Да ўсяго сказанага хочацца дадаць, што камунальным службам працы хапіла і хапае зараз, бо снегу наваліла шмат. Але на гэта і зіма, а ў зімы — свае капрызы і нечаканасці.

**Сяргей ЧЫГРЫН**
**Мікалай СУПРУН (фота)**

НОВОСТИ

# Православных больше

**Сегодня в Беларуси зарегистрирована 1031 православная община это около 80% из числа всех верующих в республике, 392 — католических, 357 — христиан веры евангельской (так называемых пятидесятников).**

Всего же в Беларуси зарегистрировано 26 конфессий. Сейчас в Беларуси нет такого бурного роста религиозных общин, как это имело место в начале 90-х годов.

Вместе с тем, в стране увеличилось количество «деструктивных сект». По оценке экспертов, число их членов насчитывает сейчас примерно 1500 человек. В Беларуси сейчас работают иностранные священнослужители. В основном, это ксендзы, которые являются гражданами Польши.

**БелаПАН**

НАВІНЫ

## Урачыстасці ў Жыровічах

**У Мінскай духоўнай семінарыі прайшлі ўрачыстасці з нагоды 200-годдзя з дня нараджэння багаслова і царкоўнага дзеяча мітрапаліта Літоўскага і Віленскага Іосіфа Сямашкі (1798-1863г.г.).**

На ўрачыстасцях прысутнічаў мітрапаліт Мінскі і Слуцкі патрыяршы экзарх усея Беларусі Філарэт.

## Слонімскія прадаўцы былі другімі

**У Гродне прайшоў абласны конкурс "Лепшы па прафесіі" сярод працаўнікоў гандлю.**

Каманда слонімскіх прадаўцоў у агульным заліку заняла другое месца.

Добрыя прафесійныя навыкі ў асабістым першынстве прадэманстравалі Аксана Андрэева з магазіна №10 АТ "Світанак" і Святлана Міхеева з гандлёвага прадпрыемства "Культтавары". Яны занялі трэція прызавыя месцы.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## Пабывалі ў Англіі

**Пяцёра вучняў з шостай і восьмай сярэдніх школ разам з настаўніцай англійскай мовы Таццянай Савіч, пабывалі ў Англіі.**

Амаль 11 дзён яны праходзілі стажыроўку па англійскай мове ў горадзе Барнстэпл. Адначасова школьнікі знаёміліся з музеямі і гістарычнымі мясцінамі Англіі, пабывалі ў Лондане.

Дарэчы, паездку ў Англію аплацілі бацькі гэтых вучняў. Кошт адной паездкі каштаваў 400 даляраў.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

И СМЕШНО, И ГРЕШНО

# Зубная боль

Мысль сделать эту историю достоянием всех принадлежит не мне, а моим товарищам по работе. Она возникла буквально несколько дней назад. Случайно я натолкнулся на сочинения двух людей и подумал, что за рамками моего устного рассказа может остаться много любопытного, важного, представляющего несомненный интерес для любителей юмора, и я решил, буквально ничего не изменяя, переписать это на чистый лист и зачитать по приезду товарищам.

Признаюсь, мне очень хотелось воспользоваться счастливым случаем и повеселить моих коллег по работе, порядком подуставших от всех этих "смешных цен" и "больших зарплат", о которых нам так часто напоминает наше телевидение.

Итак, зима, деревня, холодное, слабо отапливаемое помещение фермы. Случайно на столе вижу расскрытую папку с документами. Читаю:

***В правление колхоза "Светлая заря"***
***от заведующего фермой***
***Е.Б.Петрова***
***Докладная***

*Довожу до Вашего сведения, что скотник-пастух А.И.Кузьмин 06.06.98, пригнавший коров с пастбища к обеденной дойке был пьян и устроил скандал на ферме, обзывая коров и меня нецензурной бранью при свидетеле — главном зоотехнике.*

*Не смотря на все наши уговоры, он продолжал находиться пьяным. В результате коровы, видя его состояние, перестали есть траву, и удой молока снизился по сравнению с прошлым днем на 70 кг к вечеру.*

*Не беспокоясь ни за что, скотник А.И.Кузьмин уснул на пастбище, и коровы, оставшись без присмотра, ходили, где хотели. Собака, видя безответственность своего хозяина, пригнала коров задолго до вечерней дойки.*

*Привезенный водителем А.А.Колосковым скотник А.И.Кузьмин добавил к выпитому спиртному бутылку водки и уснул на колхозном дворе, и помешал телятнице Е.Б.Соколовой довести кормов до телят, что было необходимо по рациону. На ферме возник беспорядок. Телятница не смогла оттащить скотника-пастуха А.И.Кузмина от двери, где лежали корма.*

*Прошу учесть правление колхоза, что трезвый он работает хорошо, и принять к нему соответствующие меры, закодировав его на продолжительное время.*

*Зав.фермой Е.Б.Петров*

***Правлению колхоза***
***и председателю***
***Пуговкину А.С.***
***от скотника***
***Кузьмина А.И.***
***Объяснительная***

*В ночь с 05.06.98 и целый день 06.06.98 мне болели зубы, и я вынужден был их полоскать водкой, а так как у меня маленькая зарплата, чтобы полоскать и выплевывать, я вынужден был глотать. Прошу правление колхоза дать отгул, чтобы я мог подлечить зубы у врача.*

***А.И.Кузьмин***

**Прислал**
**Вячеслав СИВОХА**

**От автора:** Стиль и грамматика данных документов сохранены.

УВЛЕЧЕНИЕ

# Рисует Кирилл Фархутдинов

**ВНИМАНИЕ!**

Органы разыскивают особоопасного преступника — Фархутдинова Кирилла Расульевича, 1976 г.р., кличка "Керя", "Белорус", образование — высшее сомнительное, работает под художника-карикатуриста, легко входит в доверие к окружающим.



Характер скверный. Не женат. Под звуки песен Александра Иванова и группы "Рондо" теряет самообладание, мгновенно добреет, может впасть в коматозное состояние.

Вооружен карандашом и стеркой, опасен на выражения благодаря своему филологическому образованию.

Является собой большую опасность для симпатичных девушек, хотя прикидывается добропорядочным гражданином.







# СЛОНІМ ПЕРАМОГ ПА ПЕНАЛЬЦІ

**На працягу трох дзён у спартыўнай зале слонімскага мясакамбіната праходзіў дзіцячы турнір па міні-футболу, прысвечаны 75-годдзю гэтага прадпрыемства.**


*На цырымоніі адкрыцця турніра*


*Момант гульні слонімскай «Марыі» і зэльвенскай ДЮСШ*

У турніры ўдзельнічалі 8 каманд са Слоніма, Зэльвы, Гродна, Баранавіч, Мінска. У першай групе перамагла слонімская каманда КДЮСШ, якая набрала шэсць ачкоў, а другімі былі гаспадары турніру — "Марыя-мясакамбінат". У другой групе ўсе матчы выйграў ФК "Баранавічы", а другім быў ФК "Талент". Такім чынам вызначыліся пары каманд, якія сустракаліся на наступным этапе.

За сёмае месца змагаліся ДЮСШ (Зэльва) і СДЮШОР №5 (Мінск). Ва ўпартай барацьбе з лікам 3:2 перамаглі зэльвенцы, якія вельмі добра глядзеліся на турніры. Пятае месца дасталося лідскаму ДЮСШ, які выйграў у СДЮШОР №6 (Гродна) — 4:1. Відовішны футбол прадэманстравалі слонімская "Марыя" і "Талент", які разыгрывалі трэцяе месца. Па ходу гульні выйгравала "Марыя" 3:0, аднак "Талент" выйшаў наперад — 4:3, але прапусціў два мячы і прайграў...

У фінальнай гульні сустракаліся КДЮСШ (Слонім) і ФК "Баранавічы". Госці гулялі ўпэўнена і хутка ўжо вялі з лікам 3:0. Аднак слонімскія хлопчыкі здолелі зраўняць лік, а пасля трапнага ўдару Юрыя Зінгера выйшлі наперад — 4:3. Аднак фінальны свісток суддзі зафіксаваў нічыю — 5:5. Для выяўлення пераможцы давялося біць пенальці. Рашаючы гол на рахунку Андрэя Купрыянава — 5:3. У выніку, выйграла каманда слонімскай КДЮСШ.

Усе каманды-удзельніцы турніру атрымалі прызы — смачныя торты. Былі вызначаны і лепшыя футбалісты. Лепшым іграком быў прызнаны Дзмітрый Гомза (ФК "Баранавічы"), нападаючым — Ігар Ламака (КДЮСШ, Слонім), абаронцам — Уладзімір Грацкевіч ("Талент", Слонім), варатаром — Вячаслаў Тышко ("Марыя-мясакамбінат", Слонім), самым тэхнічным іграком — Максім Шкураценка (Мінск), лепшым капітанам — Аляксандр Кардаш (Гродна). "Прыз гледачоў" атрымаў Сяргей Цімохін з Зэльвы, прыз "маладая зорка" — Сяргей Гусар («Марыя»), прыз «душа каманды» — Юрый Астравух (Ліда), прыз "маладая надзея" — Антон Бубноў ("Марыя"). Лепшым трэнерам быў прызнаны мінчанін Аляксандр Ждан.

У сваёй прамове на закрыцці турніру дырэктар мясакамбіната Алег Бярдула сказаў, што гэты турнір быў пробным, і выказаў спадзяванне, што ў будучым ён стане традыцыйным. А старшыня райвыканкама Станіслаў Здановіч пажадаў хлопчыкам поспехаў у іх футбольнай кар'еры.

**Сяргей ЁРШ**